# «З ХАЛТУРАЙ НАМ ПРОСТА НЕ ВЫЖЫЦЬ»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**БІП — ГЭТА:**

Тры спецыялізацыі: знешнеэканамічнае прававое забеспячэнне, гаспадарчае права і фінансавае права. Завочная і вочная форма навучання. Апошняя ўжо складае 400 чалавек з улікам першага набору навучэнцаў у мінулым годзе.

Скептыкам паведамляю, што конкурс у гэтым годзе ў інстытуце склаў прыблізна 2 чалавекі на месца. Кожны шосты навучэнец — медаліст.

Дарэчы, выпускнік курса «знешнеэканамічнае прававое забеспячэнне» атрымлівае адразу дзве спецыяльнасці: юрыста і перакладчыка. Пяць дзён інтэнсіўнай моўнай падрыхтоўкі ў тыдзень даюць яму гэтае права. Спецыялізацыя «фінансавае права» арыентуецца на новыя банкаўскія ўстановы, камерцыйныя структуры, страхавыя кампаніі і будучую падатковую паліцыю.

Ёсць у Сцяпана Сокала задумка: стварыць яшчэ адну спецыялізацыю па зямельнаму ці сельскагаспадарчаму праву. Прыватная ўласнасць на зямлю і ўсе працэсы, з ёю звязаныя, — рэнта, арэнда, купля-продаж — проста вымусяць гэта зрабіць.

**ПРЫВАТНЫ — ГЭТА САПРАЎДЫ НЕ ДЗЯРЖАЎНЫ**

Вучэбныя планы ў БІПе такія ж, як і на любым паважаючым сябе юрыдычным факультэце любога ўніверсітэта. Той жа набор груп слухачоў. Тыя ж вучэбныя гадзіны. Вось толькі наведвальнасць істотна адрозніваецца ад «дзяржаўнай». Ч. Барташ паведаміў, што калі ў радыётэхнічным інстытуце яна складае прыблізна трыццаць працэнтаў, то ў БІПе — восемдзесят. Грошы — вялікая рэч. Асабліва, калі яны заплачаны за тваю адукацыю.

Адрозніваецца БІП і адносінамі да выкладчыцкага саставу. Аплата іх на 10—15 працэнтаў вышэй, чым у дзяржаўных ВНУ. Але патрабаванні адпаведныя. Кантрактная сістэма. Нават калі ты прафесар і сем разоў доктар, але да цябе не ходзяць студэнты, адміністрацыя інстытута з табой развітваецца хутка і без асаблівага шкадавання. За колькасцю ж кафедраў і выкладчыкаў БІП не гоніцца хоць бы па той прычыне, што колькасць — гэта далёка не заўсёды якасць. Асабліва ў галіне адукацыі. Ёсць адрозненні і ў дадатковых вучэбных курсах. У БІПе выкладаюцца рыторыка, прававая сацыялогія, латынь і лацінскія юрыдычныя фразеалагізмы, мікра- і макраэканоміка і шэраг іншых, якія цяжка знайсці ў БДУ і іншых ВНУ рэспублікі.

Дыплом БІПа ад дыплома любога ВНУ нічым не будзе адрознівацца. Спецыяльнасць — юрыст. А вось метадычныя распрацоўкі інстытута можна сказаць унікальныя. Цяпер жа фактычна няма падручнікаў па праву. Дык вось, у БІПе па кожнаму вучэбнаму курсу ёсць пяць-шэсць лекцый, «збітых» у адну брашуру. Такія брашуры ёсць у кожнага студэнта інстытута. Іх могуць прыдбаць той жа БДУ, Акадэмія ўпраўлення пры Савеце Міністраў РБ, Гомельскі, Гродзенскі ўніверсітэты і іншыя.

А С. Сокал плануе восенню выдаць брашуры аб замежным арбітражы і ўмовах пастаўкі тавараў паміж дзяржавамі СНД. Згадзіцеся, гэта актуальна, а для правазнаўцы яшчэ і неабходна.

Трэба дадаць, што БІП пільна сочыць за змяненнямі ў галіне права не толькі «блізкага», але і «далёкага» замежжа. Да таго ж, вывучаецца больш грунтоўна права той краіны, мову якой вывучае студэнт. Калі, напрыклад, нямецкая — то Аўстрыі, Германіі і г. д.

**ЦІ МОЖНА ГАВАРЫЦЬ У БІПе АБ МІЖНАРОДНЫХ НОРМАХ НАВУЧАННЯ!**

С. Сокал лічыць, што можна. Ва ўсякім выпадку, еўрапейскі адукацыйны цэнтр з Бельгіі зацікаўлены ў кантактах менавіта з БІПам. Рэктар апошняга лічыць, што філіял інстытута мог бы выкладаць у той жа Бельгіі курсы па вывучэнню славянскага права. Для іншаземцаў пакуль больш загадкавае апошняе, чым славянская душа.

Некаторых студэнтаў і выкладчыкаў БІП думае накіроўваць на стажыроўку за мяжу. Вядома, за іх кошт. Прынцып просты: хочаш быць на ўзроўні сусветных патрабаванняў — плаці.

**ЦІ МІЛЬЯНЕР РЭКТАР БІПа!**

Не. У яго, а таксама і прарэктараў, такі ж аклад, як і ў іншых рэктараў і прарэктараў іншых вышэйшых навучальных устаноў. Што датычыцца грошай, якія атрымліваюцца ад платы за вучобу студэнтаў, то яны ў першую чаргу ідуць на развіццё матэрыяльна-тэхнічнай базы. У БІПе разумеюць, што з халтурай яны проста не выжывуць у сучасных умовах. Хто ж будзе плаціць за дрэннае навучанне?

Калі астатнія ВНУ могуць разлічваць на падтрымку дзяржавы, то інстытут правазнаўства — толькі на ўласныя сілы.

Таму некаторым і здаюцца фантастычнымі памеры платы за вочную форму навучання: 24 тысячы за год, калі ў цябе няма спонсараў, і, калі яны ў цябе ёсць, — на 5—6 тысяч больш у залежнасці ад выбранай спецыялізацыі. Завочная абыходзіцца значна танней — 8 тысяч.

Для параўнання магу сказаць, што тры дні навучання майстэрству менеджэра ў Сочы каштуюць 29 тысяч. А некаторыя прадстаўнікі паўднёвых рэспублік гатовы выплаціць грошы за ўсе пяць гадоў вучобы адразу, толькі б ім далі дыплом інстытута.

**ПРАБЛЕМЫ**

Іх шмат, як і ў звычайнай ВНУ, ды плюс яшчэ ўсе пакуты «наваробджанага». Плюс адсутнасць закона аб адукацыі.

**ІДЭІ**

Іх таксама шмат. Галоўная з іх, на думку С. Сокала, — стварэнне Асацыяцыі недзяржаўных навучальных устаноў. Аднаму заўсёды цяжка. Праўда, ёсць пры БДУ інстытут сучасных ведаў, але яго профіль значна адрозніваецца ад профілю БІПа. Не за гарамі, на думку С. Сокала, і сістэма гувернёрства, і пастаянная практыка прыватных класаў у сярэдніх школах. Што ні кажы, а самай прэстыжнай адукацыяй на Захадзе лічыцца прыватная.

Таму БІП думае стварыць свае філіялы не толькі ў Беларусі, але і ў краінах СНД. Прапановы такія ёсць. І ўвасабляць іх у жыццё трэба. Таму што, калі мы не будзем шукаць новых падыходаў у эканоміцы, палітыцы, адукацыі, то ніколі не выйдзем са звычайнага кола шэрасці і ўсеагульнай роўнасці ва ўсім. Таму што абрыдла непрафесійнасць і некампетэнтнасць нашых спецыялістаў. Таму што ёсць попыт, а значыць, павінна быць і прапанова.

**Аляксандр КОКТЫШ.**

**Для тых, хто жадае звярнуцца ў інстытут, паведамляем адрас і тэлефон прыёмнай камісіі: г. Мінск, пр. Ракасоўскага, 166-а, тэл. 47-43-82.**

ДА 1000-ГОДДЗЯ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ НА БЕЛАРУСІ







# Жыве ў вяках імя святое

Святою завём мы нашу Бацькаўшчыну: шматпакутную, але не зломленую, не страціўшую надзею, захаваўшую веру.

Цяжка пералічыць усе гарады, мястэчкі, вёсачкі, дзе гісторыя Беларусі пісалася разам з гісторыяй яе праваслаўнай царквы. У гэтым шэрагу асобнае месца належыць старажытнаму Полацку, дзе тысяча гадоў таму назад была заснавана першая на нашай зямлі епіскапская кафедра. Гэта падзея далёкай мінуўшчыны супала па часе з фарміраваннем асноў старажытнабеларускай дзяржаўнасці і культуры.

Нібы бясконцая плынь стагоддзяў, цячэ паміж зялёных узгоркаў рака Палата. Адлюстроўваецца ў ёй бяздонны блакіт, белыя сцены храмаў, залатыя крыжы на купалах. Полацкі Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр — найвялікшая каштоўнасць нацыянальнай гісторыі і культуры. Тут захоўваецца прах святой прападобнай Ефрасінні Полацкай — нашай першаасветніцы, чыя постаць упрыгожвае гісторыю Бацькаўшчыны, з'яўляецца яскравым узорам любові да Айчыны, прагі да ведаў, шчырасці да людзей.

Шмат перацярпелі сцены манастыра: здзекі сваіх і замежных вандалаў, вульгарны атэізм і «матэрыялістычнае мысленне». Сёння частка яго пабудоў ужо адноўлена, у іншых працуюць рэстаўратары і будаўнікі. Насельніцы манастыра нясуць паслушэнства ў гонар святой Ефрасінні — гаспадарнічаюць, займаюцца з юнымі гараджанамі ў нядзельнай школе, аднаўляюць страчаныя старонкі гісторыі полацкіх храмаў.

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

НА ЗДЫМКАХ: ◆ Крыжаўзвіжанскі сабор манастыра. ◆ Святая Сафія Полацкая. Ікона XII стагоддзя.

◆ Тут захоўваецца прах святой Ефрасінні.

◆ У аднаўленні старажытных храмаў прымаюць удзел паломнікі грэчаскай праваслаўнай царквы са Злучаных Штатаў Амерыкі на чале з протаіерэем Эмануілам.

# ЁСЦЬ ТАКАЯ ДЗЯРЖАВА— БЕЛАРУСЬ!

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Сапраўдным патрасеннем стала для мяне тое, што мы, прадстаўнікі Беларусі, аказаліся проста забытымі. Мы былі абсалютна выключаны з жыцця — як бы мы там ні працавалі: добра ці дрэнна. Але ж мы — часцінка Беларусі. Нам жа не паступала ніякай інфармацыі. З Беларусі не было ніводнага гуку.

Але калі браць факталагічны бок, мы былі інфармаваны больш за іншых, больш, чым вы тут. Практычна кругласутачна «Сі-Эн-Эн» вяла перадачы з Масквы: у раёне маскоўскага «Белага дома» працавалі тры камеры гэтай тэлекарпарацыі. А пра тое, як успрымала гэта родная Беларусь,— мы зусім не мелі інфармацыі. І ў гэтым сэнсе нам было і трывожна, і страшна.

Калі я ўбачыў прэс-канферэнцыю «гэкачэпістаў», сказаў: гэтая «ўлада» не пратрымаецца і тыдня... Яна ж, аказалася, не пратрымалася і трох дзён. Было відавочна, што сілы гэтыя — неразумныя, што яны — не прагрэсіўныя, не дэмакратычныя. Такое было адназначнае ўспрыняцце.

**— А як, на вашу думку, можа быць «адзначана» гадавіна тых падзей?**

— Забывацца пра такія падзеі, думаю, ніяк нельга. Для мяне страшна тое, што за час, які мінуў пасля путчу, адбылося... Спачатку гэтых «гэкачэпістаў» мы адназначна «рабілі» ворагамі. Потым мы пачалі з імі «разбірацца». Цяпер жа ў народзе іх пачынаюць лічыць ледзь не разумнымі людзьмі, якія хацелі выратаваць дзяржаву. Я іх не ведаю як людзей, не хачу нічога за іх гаварыць, можа быць і сапраўды было ў іх такое жаданне. Адзінае, у што я не веру, гэта тое, што яны прынеслі б карысць дзяржаве і гістарычнаму развіццю. Іх інтэлектуальны ўзровень, іх маральнасць ні ў якім разе не маглі быць гарантыяй таго, што яны зрабілі б народу карысць. Ні працэсу дэмакратызацыі, ні эканамічным рэформам гэтыя людзі не паспрыялі б. Тое, што іх гісторыя асудзіла, кінула іх на задворкі,—заканамерна... Ну, хіба гэта гістарычныя фігуры: Паўлаў, Язаў, Кручкоў?! Калі мы ўжо апусціліся да таго, што такія «фігуры» могуць рабіць павароты ў лёсе нашай дзяржавы, то нам трэба вельмі сур'ёзна задумацца: да чаго ж мы дажыліся...

**— Генадзь Мікалаевіч, якой бачыцца вам будучыня пастаяннага прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь пры ААН?**

— Пачну крыху з недалёкай гісторыі. Яшчэ зусім нядаўна ў рэспубліцы раздавалася шмат галасоў: маўляў, існаванне прадстаўніцтва Беларусі ў ААН — марная, пустая трата дзяржаўных грошай, часу, сіл... Сцвярджалі, што прадстаўніцтва ў ААН нічога Беларусі не дае, у ім проста няма неабходнасці... Але я асабіста пераканаўся ў іншым і сёння магу цвёрда і адназначна сказаць: наша прадстаўніцтва у ААН неабходна. Не буду ўдавацца ў нейкія там дэталі, а скажу толькі вось аб чым.

Дзесяцігоддзямі дабіваюцца некаторыя краіны таго, каб стаць членамі ААН. Прычым, як маленькія краіны, так і вялікія.

**— Дык што ж такое прысутнасць у ААН?**

— Па-першае, гэта рэальнае, практычнае сцвярджэнне самастойнасці. Па-другое, магчымасць удзелу ў жыцці ўсяго свету. Вось што такое ААН. І першае, і другое нам сёння **трэба** як паветра. Наша прысутнасць у ААН павінна, такім чынам, быць абавязковай.

Кожны ўдзел у пэўнай арганізацыі накладае нейкія абавязкі. Тое, што мы ў гэтым свеце ёсць, тое, што мы прымаем у яго жыцці ўдзел — гэта не толькі наша шчасце, гэта і адзнака нашай сапраўднай самастойнасці.

**— І якую практычную рэальнасць вы бачыце ў ААН для Беларусі?**

— Бачу найперш наступнае — вырашэнне трох блокаў праблем: эканоміка, экалогія, уключаючы Чарнобыль, і правы чалавека. Нам яны не даюць спакою ў тым, каб вывесці сябе на вопыце іншых, каб, даруйце, не вынаходзіць веласіпед, а ўзяць усё лепшае з таго, што назапашана чалавецтвам. У той жа эканоміцы, рынкавых адносінах нам патрэбна не сляпое капіраванне таго, што ёсць ужо ў вопыце той жа Амерыкі, Францыі ці Італіі... Нам патрэбны прынцыпы функцыяніравання рынкавых адносін. А экалагічныя праблемы? Яны ж у нас такія балючыя! А правы чалавека?! Мы яшчэ не выйшлі нават на ўзровень разумення кожным чалавекам таго, якія ў яго ёсць правы і абавязкі. Скажу, напрыклад, хоць гэта можа выглядаць і смешным: у Амерыцы любы чалавек, які нават начуе дзесьці пад мостам, жыве на падачкі, адчувае сябе як грамадзянін вельмі высока і годна. І паспрабуйце над ім паздзекавацца... А ў нас чалавек, які робіць хоць што-небудзь, не заўсёды можа сказаць пра сябе: я —грамадзянін, свабодны чалавек рэспублікі.

Вось гэта і ёсць тры «гнязды» праблем, якія ў ААН трэба вырашаць — праз удзел у жыцці сусветнай супольнасці. Трэба браць усё лепшае і пераносіць сюды, у рэспубліку.

Адсюль і лічу: нам трэба ўмацоўваць службу ў ААН. Так, патрэбны нам дыпламатычныя прадстаўніцтвы ў асобных краінах, але ж у Нью-Йорку сапраўды сыходзяцца ўсе шляхі-дарогі. І чым больш мы будзем адстойваць сваю самастойнасць, тым больш нас будуць паважаць у Арганізацыі Аб'ядначых Нацый.

**— У гэтай сувязі вось такое пытанне: як успрымаюцца вашы прапановы, ідэі, пажаданні тут, у Мінску?**

— Як кажуць іншы раз рускія, «хороший вопрос».

У большасці, а можа і ва ўсіх кіраўнікоў рэспублікі ёсць жаданне і разуменне неабходнасці сцвердзіць сябе ў свеце. Але таму-сяму не хапае яшчэ адчування рэальнасці крокаў да гэтага. Наша грамадства і людзі не прывучаны яшчэ да таго, што ёсць законы міжнародных адносін, міжнародны этыкет, міжнародны пратакол. На жаль, не прывыклі да іх і некаторыя нашы кіраўнікі. Жаданне ёсць, а вось рэальнае адчуванне механізму ўсяго гэтага бывае не заўсёды. Аднак прапановы, якія могуць пайсці і ідуць на карысць рэспублікі, успрымаюцца адразу, безумоўна. А вось як іх рэалізоўваць у канкрэтных дзеяннях і ўмовах, вопыту нам не хапае.

Мы павінны дажыць да таго, каб пазіцыі і краіны, і канкрэтнага чалавека пры галасаванні ў ААН не былі абсалютнымі. А мы ж пакуль што блытаем, змешваем гэтыя паняцці. Так, калі чалавек выдатна прадстаўляе пазіцыю краіны, гэта шчасце. Але заўсёды пазіцыя краіны павінна быць вышэй пазіцыі чалавека.

Часу на тое, каб узгадніць тую ці іншую пазіцыю з краінай, якую прадстаўляе ў ААН той ці іншы чалавек, не заўсёды хапае.

**— Прабачце, а з кім вы ўзгадняеце гэту пазіцыю?**

— Рэальна я прадстаўляю там суверэнную Беларусь і пасада мая называецца пастаянны прадстаўнік РБ. А ў Міністэрстве замежных спраў Беларусі не ўсе гэта разумеюць і лічаць ледзь не «сваім» падначаленым... Так, у апаратыўных пытаннях, рабочых праблемах мы павінны кантачыць, дзейнічаць разам, у імя агульнай справы. Гэта — нармальна. Калі ж чыноўнікі перавышаюць свае паўнамоцтвы, я асабіста ўспрымаю гэта балюча, і няхай яны на мяне не крыўдуюць, калі я ім адказваю рэзка. Я не прадстаўнік міністэрства, я — **прадстаўнік рэспублікі.**

**— Тым не менш, вы ж уваходзіце ў іхні апарат?**

— Прабач, Анатоль, гэта ўжо прамашкі нашага заканадаўства. Да гэтага часу ў нас няма статуса прадстаўніка Беларусі за мяжой. Я шмат разоў ставіў гэтае пытанне, стаўлю яго і зараз, але...

Вярхоўны Савет павінен тут выправіць прамашку. Хто такі прадстаўнік РБ за мяжой, каму ён падпарадкоўваецца, праз каго ідуць аператыўныя рабочыя ўзаемаадносіны і сувязі — гэта ўсё трэба вызначаць.

**— Генадзь Мікалаевіч, а вось такое пытанне: ці прыкмецілі вы, ці адчулі — стала ў нас менш нацыянальнага нігілізму ці не? Я памятаю, летась вы моцна на гэта крыўдавалі...**

— Сёння маё адчуванне такое, што нацыянальны нігілізм ужо пачынае ў нас жыць у дзяржаўных структурах. На чым я грунтую такі вывад? Я разумею: гэта вельмі сур'ёзнае палітычнае пытанне і да мяне могуць быць прад'яўлены абвінавачванні... А грунтую я гэта на канкрэтных прыкладах: так ужо прывык я ставіцца да справы, хоць шмат і цярпеў, прынамсі, менавіта за гэта.

Вось газета «Рэспубліка» — орган Савета Міністраў рэспублікі. Даруйце, што гэта такое: акрамя загалоўка і яшчэ дзвюх-трох фраз, там жа беларускага нічога няма. Што гэта, як не нацыянальны нігілізм? Я бяру маю радзіму — Віцебшчыну. Вось паехаў я туды на пару дзён, пабег у кіёск, купіў усе газеты і, акрамя «Віцебскага рабочага», усе яны фактычна рускамоўныя. Бяру далей — службы Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў: я зноў бачу там толькі рускую мову. Выступаю на прэс-канферэнцыі ў Міністэрстве замежных спраў, «Народная газета» дае справаздачу і мяне недакладна цытуюць... Чаму? Ды не таму, што карэспандэнт быў настроены супраць мяне, а таму, што ён не разумеў... беларускай мовы, на якой я гаварыў.

Для мяне ўсё гэта — жах. Паўтараю: у незалежнай самастойнай рэспубліцы ідзе ашалелая антыбеларуская кампанія.

**— Генадзь Мікалаевіч, ці ведаеце вы, чым жыве сёння беларуская нацыянальная інтэлігенцыя?**

— Не ведаю.

**— Ведаеце! Не хочаце казаць? Выказваць свае пазіцыі і погляды на ўсё гэта? Усе ведаюць жабрацкае становішча інтэлігенцыі... А вы не ведаеце?..**

— Пра жабрацтва ведаю. Але гэта вельмі і вельмі баліць мне.

**— Што будзем рабіць?**

— Скажу табе рэзка, груба і прама, і, калі ласка, не змякчай гэта. Не толькі ў нас у рэспубліцы, а ў Расіі, іншых суверэнных дзяржавах ідзе барацьба супраць мазгоў нацыі. На таленты, на дасведчанасць накідваюць эканамічную пятлю і заціскаюць яе. Два гады жыву я ва ўмовах развітога капіталізму і ведаю: там ніводнага даляра ўпустую не трацяць. Але там ёсць разуменне, што ў нацыі павінен быць **дух.** Што такое дух нацыі? Гэта таленты, гэта — інтэлігенцыя. На падтрымку яе ідуць падаткі, і падаткаплацельшчыкі гэта разумеюць. У нас жа падаткі бяруць непамерныя, а вось на што трацяцца яны — наўрад ці хто ведае дакладна...

На захаванне здароўя нацыі, на падтрымку таленавітых людзей, на адукацыю і дзіцячыя ўстановы — вось куды павінны ісці нашы з вамі падаткі.

Сёння дзяржава інтэлігенцыю абражае, зневажае. І гэта крыўдна і балюча.

**— Вашы падыходы да ідэі прэзідэнцкай улады ў Беларусі. Летась вы, здаецца, былі за яе...**

— Не, летась я быў у разгубленасці, дакладней — у няпэўнасці. У няпэўнасці я і сёння.

**— Чаму ж?**

— Таму што рэальна гледзячы на становішча ў рэспубліцы, лічу, што прэзідэнцтва было б карысным. Але калі я чытаю довады супраць прэзідэнцкай улады, у тым ліку і аргументы Станіслава Шушкевіча, які пакуль што «за» парламенцкую форму кіравання Беларуссю, таксама пачынаю сумнявацца...

**— А вы можаце рызыкнуць на прагноз: чаму Шушкевіч на такой пазіцыі?..**

— Думаю, што гэта ідзе ад ягонай чалавечай сціпласці і, можа быць, крышачку ад ягонай беларускай абачлівасці. Для таго, каб у Беларусі навесці парадак, якога сёння няма, прэзідэнт ёй, лічу я, патрэбен. Добра ведаючы і паважаючы Шушкевіча, скажу: ён вельмі баіцца абвінавачванняў у таталітарызме. Але гэта, паўтараю, мая асабістая ацэнка.

**— А вашы адносіны да рэферэндума?**

— Адназначныя: ён павінен быць! І не толькі быць — ён непазбежны. Я лічу: **гістарычна** рэферэндум непазбежны. Парламент сваімі дзеяннямі, сваімі рашэннямі паказаў, што ён многіх рэчаў не тое што не можа вырашыць, ён — не хоча іх вырашаць. І нават больш таго,— не хоча іх заўважаць. У гэтым — трагедыя нашага беларускага парламента. Як чалавек, які знаходзіцца далёка ад радзімы, я бачу, што большасць законаў, даруйце, спісаны з законаў Расійскай Федэрацыі. І калі ў парламенце гэтага не бачаць ці не разумеюць,— нам гэтага не зразумець з табой. Калі дэпутаты не чытаюць законы, то я іх — чытаю...

Так, ні эканамічная, ні экалагічная сітуацыі рэферэндуму не спрыяюць. Але ж хто мог падумаць, што так будзе.

**— Ці ёсць, на вашу думку, у рэспубліцы, сапраўдныя лідэры, тыя, за кім, як кажуць, можна пайсці?**

— Лідэры ёсць, ім трэба даць правы. Найперш я лічу лідэрам рэспублікі Станіслава Шушкевіча — чалавека разумнага, узважлівага. Ісціну ён можа знайсці заўсёды. Другі лідэр — Вячаслаў Кебіч. Ягоны моцны бок — гаспадарніцтва. Ён ведае, прадбачыць: куды можа павярнуцца справа і куды яна ўрэшце павернецца... Да лідэрства Вячаслаў Францавіч падрыхтаваны добра.

А да недахопаў абодвух іх я найперш аднёс бы няўменне спрагназаваць некалькі варыянтаў развіцця падзей і сітуацый. Аднаварыянтнасць — іхні моцны недахоп.

**— Генадзь Мікалаевіч! Я ведаю, вы і асабіста, і па рабоце падтрымліваеце вялікія і трывалыя сувязі з беларускай эміграцыяй. Яшчэ ўчора гэта было для вас небяспечна — найперш, так бы мовіць, для службовай кар'еры. Сёння, дзякуй Богу, мы глядзім на эміграцыю іншымі вачамі: яна прызнана афіцыйна, з ёй пачынаюць лічыцца, прызнаваць яе ўклад у нашу агульную гісторыю і культуру...**

— Так, з гэтымі людзьмі я сустракаюся і супрацоўнічаю вельмі часта. У беларусаў у Злучаных Штатах і Канадзе няма такой магутнай дыяспары, як, скажам, у рускіх, украінцаў ці армян. Аднак і сярод нашых эмігрантаў ёсць такія, пра якіх забываць нельга ніколі. Несправядліва абылганыя, забытыя, яны апынуліся часам на Захадзе не па ўласнай волі. Сярод іх ёсць нямала людзей разумных і таленавітых, ні ў чым не вінаватых перад радзімай... Яны, несумненна, заслугоўваюць увагу і павагу з нашага з вамі боку.

**— А што вы можаце сказаць пра лёс крыжа Ефрасінні Полацкай, у пошукі якога выязджала ў ЗША цэлая місія? Здаецца, і надалей хто-ніхто не супраць «пашукаць» яго там...**

— Думаю, знайсці яго будзе няпроста. Дарэчы, эміграцыя з Беларусі сцвярджае, што ён «згубіўся» дзесьці ў запасніках НКУС — КДБ...

**— Што ж, Генадзь Мікалаевіч, пагутарылі, здаецца мне, шчыра, па-сяброўску... Плёну вам і здабыткаў у дзейнасці ў імя Бацькаўшчыны! Толькі ж і пра паэзію не забывайце: яна ж у вас — у крыві...**

— Дзякуй на добрым слове. Такія гутаркі мяне і натхняюць, і ачышчаюць. А «Звяздзе» жадаю новых поспехаў і вышынь. Вас чытаюць, і хачу спадзявацца, будуць чытаць і надалей — у тым ліку і там, за акіянам.

# БАГАЧ, БЯДНЯК, ЖАБРАК...

**У нашым перакуленым дагары нагамі грамадстве жабракі, па чутках, ледзь ці не самыя забяспечаныя людзі. Але «аматару ад жабрацтва» разлічваць на фантастычныя заробкі хутчэй за ўсё не варта: расказваюць, што існуе ўсеагульная мафіёзная арганізацыя жабракоў, якая пільна ахоўвае кожнае «рабочае месца», злосна помсцячы чужынцам, што асмельваюцца канкурыраваць з «убогімі» мафіёзі.**

У падземным пераходзе каля ГУМа бабулька гэтая з'явілася нядаўна — дзесьці каля месяца назад. Неверагодна старая, высахлая зусім — у чым толькі душа трымаецца? — яна штодзённа, як на працу, прыходзіць сюды і стаіць з раскрытай далонькай, нізка схіліўшы галаву. Дзень у дзень, з ранку да вечара; бывае, прысядзе на свой клуначак, але часцей — стаіць, быццам на векі вечныя застылая ў сваёй жаласнай позе. Хіба што прашэпча благаславенне якой-небудзь добрай душы, што ўкладзе ў старэчую руку скамечаны рубель...

Пенсіі бабулька не атрымлівае. Усё жыццё прапрацаваўшы разам з мужам на будоўлі спачатку ў Башкірыі, потым у Крыме, па маладосці і думаць ніколі не думала пра нейкія там даведкі, якія так спатрэбіліся ў старасці. Даказаць без іх, што калісьці працавала — і сезонным поварам, і нават грузчыцай — яна не змагла. Так і стала, не напрацаваўшы патрэбнага стажу, дзяржаўнай утрыманкай са штомесячнай дапамогай у 150 рублёў.

— А дачушка мая спаралізаваная ў бальніцы ляжыць. І муж яе кінуў — каму хворая жонка патрэбна? — Я ўжо не раз пашкадавала, што пачала яе распытваць, дакараючы сябе за ўласную жорсткасць: старая расплакалася. — Дачушцы маёй за шэсцьдзесят гадочкаў ужо будзе, мне — восемдзесят. Ад каго дапамогі чакаць? Як муж быў, жылі на яго пенсію. А памёр — грошай не стала. І на хаўтуры патрацілася. Цяпер людзі толькі мяне і пашкадуюць...

Але ў пераходзе жабракоў шкадуюць не часта. Спяшаючыся па справах, не кожны знойдзе час выцягнуць з кашалька грашовую паперыну або адшукаць колькі дробных манетак.

Праўда, менеткамі асабліва не падаюць—занадта ўжо дробныя грошы. А ля Кафедральнага сабора на іх і наогул не зменьваюцца. Дарэчы, манастыра ля цэркваў у жабракоў асабліва высокі шанц на добры заробак. Гэта і натуральна — звяртаючыся да Бога, чалавеку ўласціва шкадаваць абяздоленых. Ды і традыцыя амаль спрадвечная — прасіць міласціну на цвінтары.

— Рублёў па 70 звычайна атрымліваецца, а ў рэдкі дзень і 200, — паведаміў жабрак амаль што з двухгадовым стажам Р. («Калі хочаце, завіце мяне так. Проста «Р» і ўсё, — дазволіў ён. — Гэта першая літара майго прозвішча»). — А ў вялікія храмавыя святы і за тысячу бывае. Лічыце, замнога? Але вось гэтыя ношаныя штаны, напрыклад, абышліся мне на рынку ў 120 рублёў, куртка ў добрую капейчыну ўляцела. Харчавацца таксама кожны дзень трэба. Да пенсіі мне далёка, а на работу, куды ні спрабаваў уладкавацца, браць не хочуць, бо інвалід.

У Р. — сухая нага. Знайсці работу з такім заробкам, каб хапіла зняць нейкі куток, Р. не можа. І ночы праводзіць у электрычках. А ўзімку — на вакзалах. Бо свайго жытла ў яго няма. Калісьці жылі з маці ў адной кватэры. І не вельмі з ёю ладзілі. Збіраючыся ў дом інвалідаў, маці пакінула кватэру дзяржаве. З таго часу Р. і ездзіць па свеце.

— Адразу было цяжка, нават вельмі. Існаваў артыкул аб бадзяжніцтве і жабраванні, ледзь не кожны раз я трапляў у міліцыю. Праўда, можна было заплаціць міліцыянеру, многія такія, як я, гэта рабілі. Звычайна іх адразу і адпускалі. Але я ніколі не плаціў, прынцыпова. Ды і што з мяне ўзяць? Патрымаюць ноч у адзяленні — і таксама адпусцяць. Зараз, як артыкул адмянілі, міліцыя нас не чапае. Вось у Кіеве — я там быў нядаўна — іншая справа. Там кожны жабрак, каб не мець непрыемнасцяў, абавязкова павінен «даць на лапу» міліцыянеру. А ў Маскве... Ведаю ад надзейных людзей — грошы плацяць не толькі міліцыянерам, а і ўсялякім рэкецірам і іншай мафіі. Дык Масква—гэта наогул іншая дзяржава. Я туды і не імкнуся...

Р. — чалавек ужо немалады. Але спадзяецца, што знойдзецца якая-небудзь добрая жанчына з кватэрай і пашкадуе ўбогага. «Я ж не проста так езджу, выглядаю: можа, і падбярэ мяне якая», — прызнаўся ён. Тады Р. плануе ўладкавацца дворнікам і прыносіць у дом сваю чэсную капейчыну. Ён упэўнены: калі-небудзь абавязкова зажыве не горш за іншых.

А вось мара дзядка з Украіны, якога я сустрэла на чыгуначным вакзале, ужо амаль спраўдзілася. Пабачыць свет — калі ласка! Як інвалід без абедзвюх ног, ён мае права на безбілетны праезд ледзь не ў любым напрамку. Да таго ж у доме інвалідаў яго заўсёды абурала дрэнная якасць ежы, што там падавалі. І зараз усе свае грошы ён траціць менавіта на харчаванне. Жыццём сваім амаль што задаволены з таго самага часу, як збег з дома інвалідаў. Прычын для гэтага знайшлося больш чым дастаткова:

— Кармілі дрэнна, размаўлялі са мной заўсёды груба — як быццам я і не чалавек наогул. Вясной пасварыўся з медперсаналам — і выкаціўся за агароджу ў белы свет. І дакументы свае забіраць не стаў... Нядаўна сустрэў мясцовую медсястру, расказвала, што парадкі сталі яшчэ горшыя. Так што шкадаваць не шкадую і вяртацца не збіраюся. Падацца мне ўсё роўна больш няма куды. Жыве недзе старэйшы брат — дык не вельмі я яму патрэбен...

Напэўна, страшна быць нікому не патрэбным. Страшна жыць без будучыні і, магчыма, сустрэць свой апошні дзень у чарговай электрычцы або незнаёмым горадзе. Не сакрэт, што сярод жабракоў пераважная большасць — горкія п'яніцы. Нецвярозым пастаянна, ім і не падаюць амаль нічога. На што яны жывуць — адзін Бог ведае. Жывуць, нібыта ў сне, даўно не ўсведамляючы рэчаіснасці. Але ім лягчэй. Лягчэй, чым тым абяздоленым старым і калекам, якія дакладна ведаюць, што ніхто і нідзе іх не чакае. І спадзявацца ім можна толькі на міласць людскую.

Не варта зайздросціць жабрачым грашам. Не такія яны і вялікія. Можа, дзе і існуе мафія «ўбогіх», у Мінску арганізаванай індустрыі жабрацтва пакуль няма. І саміх жабракоў няшмат. Сядзяць яны — шэрыя плямiны на фоне стракатых камерцыйных кіёскаў. З даўно ўжо згаслымі вачыма.

**Ірына ЗАВАДСКАЯ.**

